*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 9 (117) ◈ 3 сакавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*ПРЭЗІДЭНТ УКРАІНЫ ЛЕАНІД КРАЎЧУК НАВЕДАЎ АКЦЯБРСКІ РАЁН БЕЛАРУСІ, дзе ў час вайны загінуў яго бацька. Адбылася неафіцыйная сустрэча Леаніда Краўчука са Станіславам Шушкевічам. Расійскія сродкі масавай інфармацыі абышлі ўвагай гэтую падзею.*

●

**У ВІЛЕНСКІМ ПЕДАГАГІЧНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ АДБЫЎСЯ СХОД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ.** Галоўным пытаннем было — адкрыццё ў Вільні беларускай гімназіі.

Закончыліся заняткі першай групы супрацоўнікаў Міністэрства аховы здароўя на курсах беларускай мовы па 72-гадзіннай праграме. Яны былі арганізаваны Інфармацыйна-культурным цэнтрам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Трыццаць пяць слухачоў курсаў здалі залікова экзамен і атрымалі адпаведныя пасведчанні. Іх уручыў старшыня Таварыства Ніл Гілевіч. Пасля адбылася гутарка за «круглым сталом» з выпускнікамі курсаў.

Работа курсаў працягваецца. Цяпер ідуць заняткі другой групы з 40 супрацоўнікаў Міністэрства. У далейшым ёсць намер праводзіць курсы з супрацоўнікамі іншых арганізацый. Адзначым актыўную работу па стварэнні курсаў вядучага спецыяліста Інфармкультцэнтра Тамары Кудрыцкай, ініцыятыву выкладчыцы Клаўдзіі Капцэвіч, якая падрыхтавала для слухачоў невялікі слоўнік найбольш пашыраных у практыцы медыцынскіх тэрмінаў.

В. ВІЛЬТОЎСКІ.

*БЕЛАРУСКІЯ СПЕВАКІ ЭДУАРД ПЕЛАГЕЙЧАНКА І НАТАЛЛЯ КАСТЭНКА ЗАПРОШАНЫ дырэкцыяй дзяржаўных оперы і балета Турцыі ў Анкары на выкананне партый Радамеса і Аіды ў оперы Дж. Вердзі «Аіда».*

●

**ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ ВЫСТУПІЛІ НА ПЛЕНАРНЫМ ПАСЯДЖЭННІ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА РАЗЗБРАЕННІ Ў ЖЭНЕВЕ.** Беларусь адмаўляецца ад валодання ядзернай зброяй. Украіна — не спяшаецца.

*Па звестках БелаПАНа ў Беларусі акрэдытавана 175 прадстаўніцтваў замежных фірм і арганізацый. 111 з іх адкрыты ў 1992 годзе, у гэтым—7. Найбольшая колькасць фірм і арганізацый: 58 польскіх, 30 нямецкіх, 11 амерыканскіх і 9 афганскіх.*

## *Са святам вясны, дарагія спадарыні!*



*Самыя прыгожыя на свеце*
*Нашы беларускія жанчыны і дзяўчаты.*
*Кветкі хай красуюць ім*
*і сонца свеціць*
*Кожны дзень, нібы вясной на Свята!*

## ЗАЯВА
## РАДЫ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

**У ліпені 1992 года Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў адпаведнасці са сваім статутам выступіла з ініцыятывай склікання ў 1993 годзе Першага з'езда беларусаў свету. Правядзенне такога з'езда і далучэнне да яго самых шырокіх колаў грамадства, актыўны ўдзел урадавых структур мог бы паспрыяць умацаванню нашай беларускай дзяржаўнасці, пашырэнню ідэй дэмакратыі і нацыянальна-культурнага адраджэння. Урадам Беларусі былі зроблены пачатковыя, хоць і сціплыя крокі ў гэтым кірунку.**

**На жаль, апошнім часам узніклі тэндэнцыі, што не могуць не трывожыць нас і ўсю нацыянальную інтэлігенцыю, якой не абыякавы лёс беларускага адраджэння. Газеты, заснавальнікам якіх выступае Савет Міністраў Беларусі («Рэспубліка», «Советская Белоруссия» і іншыя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі), рэгулярна змяшчаюць матэрыялы, накіраваныя супраць рэальнага станаўлення нашай незалежнай дзяржавы, за прыніжэнне, а то і выкараненне беларускай мовы. Не створаны ўмовы для працы ЗБС «Бацькаўшчына», да гэтага часу не вырашана пытанне з памяшканнем.**

**Урад, як і дэпутацкая група «Беларусь» у Вярхоўным Савеце, што цесна звязана з яго структурамі, паспрыяў рэанімацыі галоўнай антысацыяльнай сілы — КПБ, якая да таго ж заўсёды варожа ставілася да беларускага замежжа, унясенню ў праект будучай Канстытуцыі Беларусі палажэнняў, якія павялічваюць пагрозу ўзнікнення дыктатуры, заблакаванню народнай ініцыятывы рэферэндуму.**

**Усё гэта ў значнай ступені ставіць пад сумненне магчымасць прыезду на Першы з'езд беларусаў свету шматлікіх нашых замежных суродзічаў, якія непасрэдна звязвалі і звязваюць наша нацыянальнае адраджэнне са спыненнем дзейнасці КПБ — КПСС — структуры былой імперыі.**

**У сувязі з вышэйсказаным мы заклікаем Урад Беларусі выкарыстаць увесь свой уплыў для таго, каб стварыць больш спрыяльную атмасферу для правядзення Першага з'езда беларусаў свету. Гэты з'езд не можа адбыцца ў атмасферы антыбеларускай істэрыі, афіцыйнай падтрымкі сіл, што выступаюць супраць адраджэння нашай Бацькаўшчыны, яе культуры, мовы.**

**Аб'яднанне намаганняў у правядзенні з'езда патрэбнае і магчымае, калі Урад Беларусі пачне дзейнічаць у адпаведнасці з дэклараванымі ім прынцыпамі.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

***Прынята Радай ЗБС «Бацькаўшчына» 6 лютага 1993 г.***

## У цэнтры ўвагі — беларускі падручнік

### *У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

***Праблемы новых беларускіх падручнікаў для сярэдніх агульнаадукацыйных школ сталі тэмай сходу грамадскасці Менска, скліканага сталічнай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны.***

Акрамя актывістаў раённых рад нашага таварыства (па чыёй ініцыятыве, дарэчы, адбыўся сход), на сустрэчу запрашаліся аўтары беларускамоўных падручнікаў, прадстаўнікі Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, адпаведнай камісіі сталічнага выканкама, кіраўнікі Савета Міністраў, міністэрстваў адукацыі і інфармацыі, управлення адукацыі Менска, супрацоўнікі выдавецтваў, творчых саюзаў, навучальных устаноў, зацікаўленых навукова-даслед-

(Працяг на с. 3).

◆

***Міністэрствам юстыцыі РБ зарэгістравана Партыя зялёных Беларусі.***

◆

*Рэха*

# ЗНАЙШЛІ «СВАЮ НІШУ»

***Убачыўшы ў кіёску невялічкую (на чатыры старонкі) газету пад назвай «Ближний Запад», падумаў: відаць, гэта маскоўскае ці пецярбургскае выданне, якое расказвае расійцам пра жыццё-быццё Беларусі ды Прыбалтыкі. Памыліўся: выданне менскае, бацька ягоны — «Белорусский республиканский коммерческий центр».***

ПАГАРТАЎШЫ газетку, даведаўся, што раней яна называлася «Снабжение» і была афіцыйным органам «Госснаба БССР». Дык чаму ж «Ближний Запад»? «Ближний» для каго? На жаль, пазнаёміўшыся з газетай (№ 1 за 1993 год) грунтоўней, пераканаўся: гэта не проста **няўдалая** назва, а пункт гледжання рэдакцыі, гэта светапогляд «западноросса», для якога нават незалежная Беларусь — усяго толькі «ближний Запад».

«Цвік» нумара — гутарка з вядомым камерсантам А. Патупам, які скардзіцца на Саўмін ды бядуе, што ягоны «Эридан» пераселіцца ў будан: «...намечается грубое ограничение всех наших возможностей». Веру: у «Эридана» сапраўды ёсць праблемы, як ёсць яны і ў іншых прыватных структур, але спачуваць А. Патупу не магу. Вось як малюе ён палітычную сітуацыю ў нашай дзяржаве: «...понимая, что Горбачёв, как нормальный Генсек, доберётся до республиканских ЦК, номенклатура стала думать: как всю власть Советов на местах прибрать к рукам? Буквально как по команде в течение одного года в Литве, Латвии, Эстонии, Белоруссии, на Украине, в Азербайджане, Армении возникли народные фронты. Что стоило любому местному секретарю по звонку весь фронт загнать в следственный изолятор? Но случилось то, что и должно было случиться,— номенклатура взяла власть в свои руки (гэта на Беларусі ўлада была не ў руках Сакалова ды Камая?! — П. М.) и продолжает политику под новыми, суверенными лозунгами». Цяпер зразумела, чаму «Ближний Запад». Не патрэбныя былі ні народныя франты, ні нацыянальнае абуджэнне, ні суверэннасць. Патрэбныя былі толькі эканамічныя рэформы, якія б дазволілі сп. Патупу «открыть своё дело» і не хвалявацца, што такі выгадны занятак, як выпуск расійскамоўных кніжак, «новые, суверенные лозунги» могуць пахіснуць.

Дарэчы, шаноўны сп. Патупа: і лозунгі ў тутэйшай наменклатуры не дужа суверэнныя. «Двуязычие», пра якое гулі ветэраны ды група «Беларусь» — суверэнны лозунг? Аплёўванне нашага сцяга ды герба на сесіі Вярхоўнага Савета? Само гэтае слова — «савет»?

Але сп. Патупу пераканаць няпроста. Навошта яно, адраджэнне матчынага слова, калі так добра гучыць па-расійску «...весь фронт загнать в следственный изолятор»?

А. Патупу (і «Ближнему Западу»), як і С. Букчыну, дарэчы, дужа хацелася б пераканаць дэмакратычнага чытача, што беларускія патрыятычныя арганізацыі ўтвараюць з мясцовай наменклатурай нейкі сімбіёз, што і мэты ў іх адны, і погляды, і «нішу» яны займаюць адну. Зрабіць гэта вельмі цяжка з прычыны рэдкаснай палітычнай ды інтэлектуальнай недасведчанасці, няразвітасці нашага чынавенства. Наіўны чытач ужо амаль паверыў, што ТБМ, БЗВ, Беларускі Народны Фронт. Грамада — шрубкі партакратычнай махіны, **якая вырашыла парваць з Расіяй усялякія** сувязі-повязі, як раптам выскоквае як той Піліп з канапель шырокавядомы партакрат **ды прапануе ўступіць з Расіяй у канфедэрацыю!** Усе карты зблытвае! Ну, няхай бы ён і сапраўды ўступаў з Расіяй ды Казахстанам у канфедэрацыю (ці федэрацыю, ці на аўтаномію згаджаўся), але навошта так гучна пра гэта апавяшчаць? Праставаты, але дэмакратычны чытач убачыў і шыла і мяшок, то ж бо: «Славянские ведомости», «Знамя юности», «Ближний Запад».

Але працягнем чытанне. «Зелёный» пополз вверх быстрее, чем в конце 1992 года. Первые дни января оказались суровыми и злыми для нашего рубля». Вядома, «нашего». И «Ближний Запад» наш, «российский».

«Запад» ён «ближний», а вось дэмакратычны дух газеткі — аблыжны. «Популярность у народа завоевать проще, чем авторитет», павучае «БЗ» і друкуе дадзеныя сацыялагічнага апытання, паводле якіх «ранг рейтинга по авторитету» З. Пазьняка ніжэйшы, чым у дэпутатаў ВС Булахава і Ганчара. «Были опрошены 4 «отраслевые» группы населения республики: промышленники, местная власть и журналисты». Народ у зборы!

Здавалася б, цалкам натуральна ў выданні, разлічаным на прадпрымальнікаў, забеспячэнцаў і г. д. даць хоць трошкі нечага пра культуру, літаратуру, мастацтва. Ёсць трошкі, але таксама з пункту гледжання метраполіі на «ближний Запад». «Отныне улица Свердлова получит имя Вацлава Ластовского, а ул. Мясникова станет улицей князя Глеба Менского». І каментар: «Всё идёт по сценарию 20-ых годов, с той лишь разницей, что тогда это было немного дешевле».

Розніца не толькі ў гэтым. Розніца і ў тым, што Мяснікоў забіваў людзей, знішчаў парасткі беларускай волі, быў на Беларусі чужой і варожай сілай, для якой яна была «ближним Западом», а В. Ластоўскі загінуў ад рук нахабных прыблуд.

«Ближний Запад» — люстэрка нашай моўнай ды грамадскай сітуацыі. Амаль уся чацвёртая паласа занята спісам фірмаў, арганізацый, прадпрыемстваў, што друкавалі сваю рэкламу ў газеце ў 1992 годзе. «ИМП «Надежда» (Солигорск), КЦ «Надежда» (Орша), МП «Смена» (Витебск), колхоз «Наша победа» (Белыничи)». Далей чытаць няма ахвоты, але ўсё ж дачытваю спіс. Ёсць тры беларускія назвы: «Кооператив «Квецень», СП «Полімайстар» ды «МКПП «Рунак».

«В этом году мы решили выйти на более широкую аудиторию и надеемся, что сумеем найти свою «нишу» в довольно-таки тесном пространстве информационного рынка»,— даверліва дзеліцца газета з чытачом сваімі спадзяваннямі. «Сумеют», бо ў нашай маладой дзяржаве навідавоку вялізная ніша.

**Павел МАРЦІНОВІЧ.**

*Набалелае* ◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# Падобна на двор у нядбайнага гаспадара

Беларускае тэлебачанне паведаміла, што кіраўніцтва Латвійскай Рэспублікі вырашыла з 20 сакавіка г.г. закрыць бескантрольны ўезд у сваю краіну. Каб папасці туды, патрэбна віза. Яе можна набыць у прадстаўніцтвах Латвіі за 10 долараў. Або купіць пры ўездзе ў краіну за 20 долараў. Гэта не датычыцца грамадзян Літвы і Эстоніі. Іх права.

Але калі Латвія зрабіла такі крок, то чаму не рэагуюць адпаведныя службы Беларусі? Латвійцы могуць свабодна прыязджаць да нас з куфрамі «пустых» рублёў і вывозіць каштоўныя тавары.

Беларусы ганарацца, што яны памяркоўныя, але ж і памяркоўнасць павінна мець разумныя межы.

Вось яшчэ. Украіна і дзяржавы Прыбалтыкі за пралёт над сваёй тэрыторыяй самалётаў краін СНД бяруць плату ў цвёрдай валюце. А Беларусь аддала краінам СНД свой паветраны абшар бясплатна. Во добранькія!

А рэкеціры? Чытаеш у газетах і часопісах і дзіву даешся. Мала нам сваёй погані, дык яшчэ і з Расіі свабодна прыязджаюць. А праз Беларусь і ў Польшчу, каб і там абіраць на рынках беларусаў. У Брэсце рэкеціры кантралююць вакзал. Жах! А мы ўсё памяркоўнічаем. Самім сабе на бяду. І Вярхоўнаму Савету трэба не разбягацца на чарговы шматмесячны адпачынак, а хуценька прымаць адпаведныя законы па абароне насельніцтва ад бандытаў, незалежна, адкуль яны, а таксама па ўмацаванні нацыянальнага суверэнітэту. А то ў нас падобна на двор у нядбайнага гаспадара, па якім мала што ўсе сноўдаюць, а адкуль усё ў дадатак цягнуць.

**Мікалай ЛЕНКАВЕЦ.**
г. Ганцавічы.

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Апостраф** (ад грэчаскага *апострафас* 'павернуты ўбок або назад') — надрадковы значок у выглядзе коскі. У розных арфаграфічных сістэмах мае рознае значэнне: паказвае пропуск галосных, аддзяляе артыклі, часціцы ды інш. У беларускай графіцы стаў выкарыстоўвацца як раздзяляльны сродак пасля апублікавання ў 1918 годзе «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча. Канчаткова яго функцыі вызначыла Акадэмічная канферэнцыя 1926 года.

*Паводле А. М. Булыкі.*

**Антрапаніміка** (ад грэчаскіх слоў *антрапос* 'чалавек' і *оніма* 'імя') — раздзел анамастыкі (навукі аб усёй сукупнасці ўласных імён), які вывучае антрапонімы: асабовыя імёны людзей, прозвішчы, мянушкі, псеўданімы.

*Паводле В. П. Лемцюговай.*

# ШТО ЗА ЗАКОН, ЯКІ МОЖНА НЕ ВЫКОНВАЦЬ?

***Нядаўна у Доме літаратара адбылося пасяджэнне Кансультацыйнай нарады дэмакратычных сіл. За «круглым сталом» у канферэнц-зале сабраліся прадстаўнікі розных палітычных і грамадскіх арганізацый Беларусі.***

Гаворку, прысвечаную своеасабліваму юбілею (тры гады са дня прыняцця Закона аб мовах), распачаў народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў. Зрабіўшы экскурс у перадгісторыю сённяшняга этапу барацьбы за адраджэнне роднай мовы, прамоўца заўважыў, што раней лічба праціўнікаў беларускай мовы (у якасці адзінай нашай дзяржаўнай мовы) была меншая, чым цяпер.

У чым жа справа? Паспрабуем разабрацца ў гэтым. Пэўныя палітычныя сілы сёння рашуча змагаюцца за дзяржаўнае двухмоўе. Яны спасылаюцца на апошнія вынікі сацыялагічнага апытання: 72,3 працэнта рэспандэнтаў у сваіх адказах спецыялістам Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі заявілі, што рэспубліка павінна мець дзве дзяржаўныя мовы — беларускую і рускую. Толькі 22,8 працэнта ўпэўнены, што нашай дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская.

Магчыма, сацыёлагі не памыліліся, правільна выбралі кантынгент рэспандэнтаў. Але ж ёсць у гэтай горкай праўдзе яшчэ адзін бок — мэтанакіраванае і паслядоўнае вынішчэнне нашай мовы, якое ледзь не прывяло да ліквідацыі беларусаў як нацыі. І менавіта гэта не ўлічвала ў выступленні на нарадзе сустаршыня Руху за сацыяльны прагрэс і дэмакратычныя рэформы Вольга Абрамава. Якраз яна, спасылаючыся на агульначалавечыя, прызнаныя ва ўсім свеце вартасці, агітавала за дзяржаўнае двухмоўе.

Прамова В. Абрамавай выклікала прыкметнае ажыўленне сярод удзельнікаў дыскусіі. І ўсё ж для большасці іх зрабілася відавочным: не тымі аргументамі карыстаюцца прыхільнікі двухмоўя, бо зацверджанае законам двухмоўе непазбежна скрозь прывядзе да паўсюднага рэальнага аднамоўя.

Старшыня Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алег Трусаў падкрэсліў, што адзін са шляхоў вяртання беларускай мовы ў шырокі ўжытак — змяненне стаўлення да роднага слова з боку кіраўнікоў усіх узроўняў. Што да ўрадавых структур, то аб пэўным спрыянні беларушчыне можна гаварыць хіба толькі ў міністэрствах інфармацыі, адукацыі, культуры і замежных спраў.

Слушныя прапановы выказаў таксама намеснік старшыні Менскага гарсавета Анатоль Гурыновіч: «Закон аб мовах не вызначае... юрыдычнай адказнасці за праваларушэнні...» Але што ж гэта за закон, які можна не выконваць? Менскі гарсавет, напрыклад, сам выступіў з ініцыятывай накладваць адміністрацыйную адказнасць на кіраўнікоў за невыкананне Закона аб мовах.

Сваімі прапановамі на пасяджэнні падзяліліся і прадстаўнікі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Нацыянал-дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сялянскай партыі, шэрагу іншых партый і грамадскіх арганізацый. Шкада, што з нагоды трохгоддзя прыняцця Закона аб мовах дзяржаўныя структуры не знайшлі часу на правядзенне адпаведных мерапрыемстваў. Відаць, для іх адраджэнне роднай мовы — справа па-ранейшаму далёка не першага плана.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

• *Чыталі?* •

# Таямніцы адкрываюць калекцыянеры

**Газета «Беларускі калекцыянер» набывае абрысы перыядычнага выдання. Студзеньскі нумар будзе цікавы філакартыстам, філатэлістам, геральдыстам, фалерыстам, баністам і нумізматам. І дзіўна і крыўдна за маленькі наклад «Беларускага калекцыянера» — усяго толькі 999 паасобнікаў, бо кожны нумар газеты адкрывае ўнікальныя старонкі беларускай гісторыі.**

**Што асабліва ўражае ў восьмым нумары «Беларускага калекцыянера»? На першай старонцы — артыкул Вітаўта Зубкоўскага «Нашыя паштоўкі на Захадзе». Аўтар падказвае астравы філакартыстычнай беларусікі ў замежжы — Нямеччыне, Чэхіі, Францыі, ЗША... Згадвае ён і колішнія — дваццатых гадоў — паштовыя карткі БССР.**

**Сярод аўтараў «Беларускага калекцыянера» Леў Коласаў, вядомы філатэліст, слынны даследчык паштовай гісторыі Беларусі.**

**Міхась Вераціла выступае з грунтоўным артыкулам «Сьвідніцкі паўгрош», уводзячы і нумізмата, і проста цікаўнага чытача ў далёкае ад нас XVI стагоддзе. Дэталёвасць, з якой аўтар распавядае пра мінуўшчыну, дае падставы лічыць, што калекцыянер і краязнавец Міхась Вераціла правёў грунтоўны росшук. Дарэчы, што да ўсіх публікацый гэтага вядомага нумізмата ў газеце «Беларускі калекцыянер», то яны, бясспрэчна, заслугоўваюць асобнага кніжнага выдання.**

**Завяршаючы кароткі агляд чарговага нумара «Беларускага калекцыянера», нагадваем яго адрас: 211030, Орша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16, Сярожкіну Алесю Міхайлавічу. Акрамя Сярожкіна, удзел у падрыхтоўцы газеты да выпуску ў свет прынялі Уладзімір Цярохін і Мікола Дземідовіч.**

Ганна ЦІТАЎКА.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску (47)
Узбагацілася нямецкая познарамантычная лірыка таксама шэрагам выдатных вершаў Ёзэфа Айхендорфа (1788—1857) і Вільгельма Мюлера (1794—1827).

*Ёзэф* АЙХЕНДОРФ

## Інтэрмецца

Твой вобраз незабыўны
У сэрцы я нашу.
Штодня — чароўны, дзіўны —
Ён цешыць мне душу.
Душа мая спявае,
І тая песня ўміг,
Яе нітачка жывая,
Злучае нас дваіх.

## Шчасце паэта

О свет, я табе невядомы,
З табою мы — не сябры.
Затое заўсёды, як дома,
Я ў вечаровай зары.
Фартуна, ляці ў паднябессе,
Лунай сабе ў вышыні.
А я між аленяў у лесе
Не засумую ані.
Даўно я ад роднага краю
Падаўся ў чужую зямлю,
І ўсё-такі заўжды благаслаўляю
Куточак, што сэрцам люблю.

*Вільгельм* МЮЛЕР

## Ранішняя песня

Хто там гуляе пад акном,
Грукоча ў аканіцу?
То вецер ходзіць хадуном,
Не хоча ўгаманіцца.
«Выходзь, выходзь, хадзем са мной! —
Гарэза выклікае. —
Тут пахне сонцам і вясной!
А пекната якая!
Ці чуеш, як жукі гудуць
Над веснавою старонкай?
Нібы схмялелыя, лятуць
І ў шыбы б'юцца звонка.
Паміж галінак, па траве
Праменьчык прабягае.
Прачніся! Ён цябе заве,
Смяецца і міргае.
А салавей... Як ён спяваў,
Як ён свісцеў і шчоўкаў!
Ты з ложка соннага не ўстаў,
Замоўк цяпер салоўка.
Я стукаю табе ў акно,
На волю выклікаю.
Выходзь! Вясна цвіце даўно,
Яна не пачакае».

**Пераклад з нямецкай Уладзіміра ПАПКОВІЧА.**

*Вечарыны*

# ДАНЧЫК: яркі прыклад і горкі папрок

Прыгадваю, як увосень 1989 г. у Менск прыехаў Данчык, беларускі спявак з Амерыкі, і адразу ж заваяваў нашы сэрцы. Мы слухалі цудоўныя песні і плакалі, бо, як сказаў адзін пісьменнік, «ад шчасця таксама плачуць». Тады мы яшчэ жылі ў таталітарнай дзяржаве. Усюды панаваў страх. Таму Данчыку далі толькі адну канцэртную залу ў Палацы прафсаюзаў. І тут дарэчы будзе прыгадаць адважную жанчыну Валянціну Швяцову, дырэктара згаданага Палаца, якая таго дамаглася. Яна не пабаялася начальства, стала поперак горла стагнацыйнаму кіраўніцтву рэспублікі. Зрабіла ўсё, каб адбыўся не толькі адзін запланаваны і дазволены канцэрт Данчыка, а і яшчэ некалькі. Шкада, што неўзабаве яе напаткала гвалтоўная смерць.

І вось новая сустрэча з Данчыкам, цяпер ужо завочная. На вечарыну, прымеркаваную да дня яго нарадзінаў, прыйшло ў Дом літаратара шмат народу. Людзі стаялі ў праходах. Адкрыў яе вядучы першага канцэрта Данчыка ў Менску Віталь Сямашка. На пачатку вечарыны адбылося набажэнства, у якім прагучала малітва за Беларусь і яе славутых сыноў. Святар Ігар Латушка прыгадаў першы менскі студэнцкі гурт выканаўцаў беларускай песні (сам у ім удзельнічаў), яго ролю ў адраджэнні беларускай песні.

**Пра феномен** Данчыка, яго ўклад у беларускае Адраджэнне гаварылі паэт С. Грахоўскі, кампазітары І. Лучанок, З. Яўтуховіч, Н. Сярых, іншыя ўдзельнікі ўрачыстасці. Яны расказалі і пра свае асабістыя кантакты і сустрэчы з Данчыкам, што так іх радуюць і натхняюць. С. Грахоўскі, В. Жуковіч прачыталі свае вершы, прысвечаныя артысту і яго маці сп. Юліі. Зладжанымі сіламі арганізатараў вечарыны (фан-клуб аматараў творчасці Данчыка, Дом літаратараў і Саюз пісьменнікаў Беларусі, часопіс «Роднае слова») быў дадзены вялікі канцэрт. Выступілі барды і гурты Данчыкавай генерацыі, тыя, каго ён абудзіў і паклікаў з сабою — у нацыянальнае мастацтва. Так, напрыклад, Яўтуховіч прыгадаў, што музыку для першай беларускай песні ён напісаў, працуючы з Данчыкам над калыханкай «Добрай ночы».

У канцэртнай праграме прагучалі аўтарскія песні А. Атаманава, І. Лучанка, В. Сядых, З. Яўтуховіча, песні на словы Купалы, Багдановіча, К. Буйло, Н. Арсенневай, С. Новіка-Пеюна, прэм'еры новых песень у выкананні ансамбляў і гуртоў. Потым быў паказаны фільм «Данчык». Прамільгнулі кадры з ім: маладзёжная вечарына, у гасцёўні Л. Барткевіча, на набярэжнай Свіслачы, першы канцэрт, апошні канцэрт. І вось развітальная сцэна ў зале: Данчык — прыгожы, высокі, у белай вышыванай кашулі, з адухоўленым бледным тварам бярэ гітару і начынае новую песню. Шчымліва гучаць словы «Зорачкі». Чысты, натхнёны, салаўіны голас лунае высока ў паветры і раптам зрываецца, нібы падае долу — спазмы перахапілі спеваку горла, ён плача.

Дык хто ж такі Данчык? Што нас у ім так прыцягвае і хвалюе? Яго фенаменальны талент і голас? — Так! Абаяльнасць і інтэлігентнасць? — Так! Беларускасць? Чысціня роднай мовы ў вуснах? Пакутлівая любоў да радзімы ў ягоным сэрцы? — Так! Данчык для нас — яркі прыклад і горкі папрок. Прыклад таго, як можа чалавек, жывучы за акіянам у чужым асяроддзі, зберагчы тым не менш родную мову, угрунтавацца на нацыянальнай глебе, стаць гарачым патрыётам радзімы. Духоўную эстафету ён пераняў ад сваіх продкаў — слаўнага роду Луцкевічаў, — якія на пачатку XX ст. узнялі паходню беларускага Адраджэння. Разам з тым Данчык — нам горкі папрок, бо мы не сталі тым, чым павінны былі стаць, жывучы на сваёй зямлі. У сваёй большасці мы — нікія.

**І. К.**

*• Чыталі? •*

## З глыбінь народнае душы

*Кніга «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы», што нядаўна выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка» накладам 10 тысяч паасобнікаў, з'яўляецца трэцім дапрацаваным і дапоўненым выданнем, якое ў свой час склаў вядомы пісьменнік і навуковец Фёдар Янкоўскі. У «Слове складальніка да першага выдання» можна даведацца, як узнікла гэта кніга: «Спярша мелася на ўвазе выдаць невялікі зборнік беларускіх народных прыказак і прымавак, якія я сабраў у розных мясцінах Беларусі. Агульная колькасць іх складала больш за 4000. Але адсутнасць зборніка беларускіх народных прыказак і прымавак для масавага чытача штурхнула на складанне больш поўнага зборніка — такога, які з'явіўся б даведнікам і дапаможнікам для настаўнікаў і працаўнікоў друку, агітатараў і прапагандыстаў, студэнтаў і вучняў».*

*Рупліва адабраныя Фёдарам Янкоўскім, прафесійна апрацаваныя, беларускія прыказкі і прымаўкі даюць цэласнае ўяўленне пра глыбіню і багацце мовы беларускага народа.*

•••

## Некалькі згадак з гісторыі Айчыны

*У выдавецтве «Юнацтва» накладам 15 тысяч паасобнікаў выйшла кніга эсэ Станіслава Цярохіна «Перунова цяпельца». Аўтар кнігі мастацкім словам ажыўляе падзеі, вобразы таленавітых людзей розных часоў, якія былі забыты. Змест кнігі складаецца з раздзелаў: «Перунова цяпельца», «Шахматы далёкіх продкаў», «Ракеты нашага земляка», «Энцыклапедыст са Шчорсаў», «Лепельскі выгнаннік», «Мядовы бунт» і іншыя. Выданне адрасавана школьнікам старэйшага ўзросту.*

*• Чыталі? •*

## Што трэба ведаць кожнаму беларусу

*У мінулым годзе «Наша слова» на сваіх старонках знаёміла чытачоў з працай Вацлава Ластоўскага «Што трэба ведаць кожнаму беларусу». Нядаўна гэтая праца перавыдадзена коштам Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны накладам 10 тысяч паасобнікаў. Гэта ўжо трэцяе выданне. Яго пашырыў Я. Найдзюк. Хочацца нагадаць, што кніжка складаецца з дванаццаці раздзелаў: «Пра сябе і свой народ», «Пра беларускую зямлю», «Пра сваю мову», «Пра гісторыю Беларусі», «Пра веру беларуса», «Пра бацькаўшчыну», «Пра нацыянальныя адзнакі беларуса», «Пра патрыятычныя павіннасці», «Пра беларускую сям'ю», «Беларус на чужыне», «Нашая гордасць», «Прысяга беларуса». Выданне можна набыць у ТБМ, а таксама ў шапіку таварыства, што на праспекце Скарыны.*

*Рэха*

# НА КАГО ІДЗЕ «КАРАЛЕЎСКАЕ ПАЛЯВАННЕ»?

Дзесяткі тысяч людзей пасля «блукання па пакутах» любяць паглядзець добрую тэлеперадачу. Да ўсяго, сёння ёсць што і паглядзець. Праўда, не заўсёды беларускае тэлебачанне радуе. Пасля прагляду некаторых перадач хочацца крычаць: «Калі ўжо гэта на нашым тэлебачанні скончыцца настальгія па савецкай **імперыі?!» Ды хто пачуе?**

8 лютага на БТ ішло шоу-казіно «Каралеўскае паляванне». У студыю былі запрошаны супрацоўнікі часопіса «Родник» **(«Крыніца»)** Уладзімір Някляеў, Міхась Кацюшэнка, Леанід Екель і Павел Якубовіч. Дарэчы, кожны з запрошаных па-свойму арыгінальны і цікавы чалавек. Вядучыя, артысты тэатра «Хрыстафор», як заўсёды, трымалі сябе на ўзроўні сваіх талентаў. Ды і самая прыгожая, як яе нядаўна ацаніла адно выданне, вядучая — тэлежурналіст Кацярына Дзямчук працавала як мае быць. Праўда, спадарыня Кацярына, якая на самым пачатку ўзнікнення «Каралеўскага палявання» (калі мне не здраджвае памяць) гаварыла па-беларуску, цяпер толькі на «великом и могучем». Я ўжо не гавару пра **вядучых — спадароў Крыжаноўскага і Краўца.** Магчыма, ім пастаўлены такія ўмовы працы: ці вы гаворыце па-расійску, прапагандуеце расійшчыну і працуеце, ці... Бо як разумець тое, што на дзяржаўным беларускім тэлебачанні ў час, калі ўжо чацвёрты год, як прыняты Закон аб мовах, з чалавекам, які гаворыць па-беларуску, вядучы не можа сказаць і двух слоў на дзяржаўнай мове.

**У шоу-казіно** былі і такія эпізоды. Пасля пытання, зададзенага вядомаму паэту, галоўнаму рэдактару часопіса «Родник («Крыніца»), прыстойнаму чалавеку Уладзіміру Някляеву, чым ён займаецца ў вольны час, не дачакаўшыся адказу, паказалі музычны кліп з палавым актам паміж кветкамі. Што гэта: пераклад беларускамоўнага адказу на расійскую мову ці проста здзек? І яшчэ. У канцы «Каралеўскага палявання», калі У. Някляеву прапанавалі пазнаёміць гледачоў з вершам, які ён напісаў у студыі па просьбе саміх жа вядучых, яму далі зачытаць толькі два радкі (ці некаму верш не спадабаўся, ці мова, на якой ён быў **напісаны)** і пусцілі музычны кліп з рускамоўнай песняй на словы паэта «Кукла **Мадонна»,** нібыта ў Някляева няма цудоўных беларускіх песень. Сама па сабе ўзнікае думка, што ўсе фокусы з паэтам зроблены спецыяльна, таму што ён гаварыў толькі па-беларуску, выклікаючы **разгубленасць у** вядучых, якія, відаць, і не чакалі, што галоўны рэдактар «Родника» («Крыніцы») яўны «нацыяналіст» і не ўпісваецца ў шоу-казіно, дзе беларуская мова, беларуская песня — госць рэдкі і нечаканы.

**Вінцук ВАЛОЖЫНСКІ.**

